© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

№ 5 (53)
Сакавік 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"

# "Марш Свабоды-2" — гарачы пачатак халоднай вясны

***Пасьлячарнобыльскія вёсны на Беларусі позьнія. І халодныя, і сьнежныя. Такім выдаўся і дзень 15 сакавіка, Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзень правядзеньня "Маршу Свабоды-2". Аднак, нягледзячы ні на што, удзел у шэсьці і мітынгу прынялі больш за 25 тысячаў грамадзянаў.***




Сярод традыцыйных лозунгаў, пад якімі прайшоў "Марш...", — за працяг перагаворнага працэсу паміж уладамі і апазіцыяй: "Перамовы, перамены, перамога!" і антыінтэграцыйных, антылукашэнкаўскіх: "У Еўропу без Лукашэнкі!", "Беларусам — Беларусь, Лукашэнку — УсяРусь!" — на гэты раз быў і новы, "чачэнскі": "Не дапусьцім адпраўкі беларускіх міліцыянтаў і ваеннаслужачых у Чачню!". Удзельнікі маршу сабраліся на плошчы Якуба Коласа, прайшлі па праспекце Скарыны і вуліцы Сурганава да плошчы Бангалор, дзе адбыўся мітынг і рок-канцэрт папулярных беларускіх гуртоў N.R.M. і "Нейро Дюбель".

Улады па-свойму рыхтаваліся да акцыі апазіцыі. А.Лукашэнка, напярэдадні "Маршу..." вельмі абурыўся тым, што Мінгарвыканкам даў дазвол на правядзеньне мерапрыемства "пасьля бойні 17 кастрычніка" мінулага году і заявіў літаральна наступнае: "Крок улева, крок управа ад закону — і шматкі палятуць ва ўсе бакі...", яскрава нагадваючы пра тое, што загад на расправу з удзельнікамі леташняга мірнага шэсьця аддаў менавіта ён. Мінгарвыканкам і (Працяг на стар. 2)




На здымках: Мінск, 15 сакавіка 2000 году.

## Хроніка

*28 лютага* судом Кастрычніцкага р-ну г. Віцебску быў вынесены прысуд актывісту КХП БНФ Анатолю Букачову. А. Букачоў абвінавачваўся ў тым, што ў ліпені 1998 году, напярэдадні правядзеньня афіцыёзнага фестывалю «Славянскі базар», ён друкаванымі літарамі напісаў ліст ад імя неіснуючай арганізацыі «Вольная Беларусь», у якім выказаў пратэст супраць разбазарваньня дзяржаўных сродкаў на наладжваньне пампезных прарасійскіх сьвятаў. У лісьце выказвалася патрабаваньне спыніць фестываль, інакш некаторыя арганізатары і ўдзельнікі «Славянскага базару» могуць пацярпець. Ліст быў дасланы ў газету «Віцьбічы» з патрабаваньнем надрукаваць яго. Рэдакцыя газеты перадала ліст у КДБ. Пошукі «тэрарыстаў» вяліся амаль паўтары гады. Увосень 1999 году, КДБ нейкім чынам выйшаў на Анатоля Букачова. У ягонай кватэры быў праведзеныператрус. А. Букачоў быў выкліканы ў КДБ, дзе пад ціскам сьледчых прызнаўся ў напісаньні гэтага ліста. Судовае пасяджэньне па справе А.Букачова было першапачаткова прызначанае на 24 лютага, але з-за няяўкі адваката, прызначанага афіцыйным сьледзтвам, было перанесенае на 25 лютага. У гэты дзень А.Букачоў адмовіўся ад удзелу ў працэсе афіцыйнага абаронцы і заключыў дамову з вядомым адвакатам Уладзімірам Шайкевічам. У працэсе ў якасьці грамадзкага абаронцы браў удзел ганаровы сябра ПЦ «Вясна» Барыс Хамайда. 25 лютага на працягу дня адбывалася судовае паседжаньне, а 28 быў вынесены прысуд. А. Букачоў быў прызнаны вінаватым у зьдзяйсьненьні злачынства, прадугледжанага арт. 201.1 ч. 1 КК РБ, нягледзячы на тое, што ягоная віна пацьвярджалася толькі ягонымі ўласнымі паказаньнямі. Анатоль Букачоў быў пакараны штрафам памерам у 50 мінімальных заробкаў (115 даляраў ЗША). У заключным слове А.Букачоў заявіў пра выключна палітычныя матывы ўчынку.

(Працяг на стар.6-7)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Без права на выбар

## Напярэдадні «Маршу Свабоды-2» улады запалохваюць моладзь

13 сакавіка ў Праваабарончы Цэнтр «Вясна» з заявай зьвярнуліся навучэнцы мінскай гімназіі № 9. У заяве яны назвалі факты грубага парушэньня правоў чалавека з боку адміністрацыі гімназіі. У прыватнасьці, гаворыцца, што напярэдадні дазволенай Мінгарвыканкамам акцыі апазіцыі вучням гэтай гімназіі быў пастаўлены ультыматум: альбо яны прысутнічаюць на школьным мерапрыемстве падчас правядзеньня «Маршу Свабоды-2», альбо ім давядзецца забіраць дакументы і пакідаць гімназію.

Гэта не адзіны выпадак запалохваньня адміністрацыяй навучальных установаў сваіх навучэнцаў. Праваабарончаму Цэнтру «Вясна» сталі вядомыя факты ціску на студэнтаў ВНУ сталіцы. Так, напрыклад, у прэстыжнай Акадэміі кіраваньня студэнтаў запалохвалі разнастайнымі дысцыплінарнымі санкцыямі, калі яны будуць заўважаныя ў шэрагах дэманстрантаў, а ў адной з мінскіх вучэльняў на вечар 15 сакавіка прызначаная дыскатэка, на якой абавязаныя быць ня толькі ўсе навучэнцы, але і кіраўнікі групаў.

Відавочна, што ўлады вельмі напалоханыя магчымымі масавымі акцыямі, абвешчанымі апазіцыяй на вясну гэтага году, а навучэнцы і студэнты, як вядома, зьяўляюцца актыўнымі удзельнікамі акцыяў пратэсту.

# "Марш Свабоды-2" – гарачы пачатак халоднай вясны

(Пачатак на стар. 1)

міліцэйскія ўлады ўспрынялі словы Лукашэнкі па-свойму. 15 сакавіка "дзеля забесьпячэньня парадку" было аб'яўленае рабочым днём ва ўсіх міліцыянтаў, была ўзмоцненая ахова ўрадавых будынкаў, у дварах па шляху шэсьця сканцэнтраваныя "ударныя сілы". Па маршруце руху калоны ў тэрміновым парадку пачалі рабіцца "рамонтныя работы, а ў мінскіх школах, вучэльнях і ВНУ раптам пасярод тыдня наладзілі для вучняў і студэнтаў дыскатэкі ды іншыя "забаўляльныя праграмы".

Арганізатары "Маршу..." са свайго боку наладзілі працу дружыны дзеля захаваньня парадку і нейтралізацыі правакатараў. Увогуле, першая акцыя "Гарачай вясны-2000" прайшла без асаблівых эксцэсаў. Хоць яшчэ да пачатку "Маршу..." нейкі малады чалавек (як потым высьветлілася, гэта быў студэнт 2-га курсу геафаку Белдзяржуніверсітэту Сяргей Казлоў) кінуўся да карэспандэнта расійскай тэлекампаніі НТВ Аляксандра Калпакова і ўдарыў яго ў твар, нібыта за нязгоду з тым, як НТВ асьвятляе падзеі ў Чачні. Але хулігана-правакатара адразу ж затрымалі не міліцыянты, а ўдзельнікі "Маршу...", сярод якіх быў і назіральнік ПЦ "Вясна" Алесь Данільчык... Само ж шэсьце прайшло па вызначаным маршруце і, паўторымся, без інцыдэнтаў. Праўда, пасьля заканчэньня акцыі беларускія ўлады не стрымаліся і ўсё ж арыштавалі шэсьць удзельнікаў "Маршу...", але ў той жа вечар яны былі адпушчаныя.


Мінск, 15 сакавіка 2000 году. Фота "ПнВХ"

На мітынгу на плошчы Бангалор выступілі вядомыя дзеячы апазіцыі: намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандр Дабравольскі, віцэ-сьпікер легітымнага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька, былы прэм'ер-міністр Беларусі, палітвязень, суд над якім працягваецца, Міхаіл Чыгір, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікола Статкевіч, старшыня Беларускага народнага фронту Вінцук Вячорка, дэпутат ВС 13-га скліканьня Людміла Гразнова ды іншыя. На "Маршы Свабоды-2" прысутнічалі кіраўнік КНГ АБСЕ у Беларусі Ханс-Георг Вік, пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Сьпекхард, прадстаўнікі міжнародных праваабарончых арганізацыяў Amnesty International, Human Rights Watch, People in Need, праваабаронцы з Польшчы і Летувы. Акцыі салідарнасьці з удзельнікамі "Маршу..." у гэты дзень адбыліся ў Брусэлі, Празе, Варшаве, Кіеве, а таксама ў буйнейшых беларускіх гарадах.

Безумоўна, "Марш Свабоды-2", на які выйшлі дзесяткі тысячаў грамадзянаў Беларусі, незадаволеных палітыкай, што праводзіць рэжым Лукашэнкі, стаў пасьпяховым пачаткам аб'яўленай апазіцыяй "Гарачай вясны-2000" — комплексу акцыяў за незалежнасьць Беларусі, за дэмакратычныя пераўтварэньні ў краіне, за захаваньне і забесьпячэньне правоў чалавека. Улады адчулі і зразумелі гэта. Менавіта таму Мінгарвыканкам не даў дазволу на правядзеньне шэсьця падчас чарговай акцыі "Гарачай вясны-2000" — Дня Волі, які сьвяткуе беларуская апазіцыя 25 сакавіка, у дзень, калі ў 1918 годзе была ўтвораная Беларуская Народная Рэспубліка. Але спыніць абуджэньне народнага руху да волі лукашэнкаўскаму рэжыму не ўдасца, як не спыніць надыход вясны, як не спыніць вясновую паводку...

**Андрэй НАЛІВА**

# У адказ – сьлезацечны газ у твар

## Міліцыянты зьбілі жанчыну, якая прымала ўдзел у «Маршы Свабоды-2»

15 сакавіка Галіна Рабянкова вярталася дамоў пасьля заканчэньня «Маршу Свабоды-2». У раёне скрыжаваньня вуліц Варвашэні і Багдановіча яна выпадкова стала сьведкай неправамерных дзеяньняў супрацоўнікаў міліцыі — яны жорстка зьбівалі невядомага чалавека, які быў на падпітку. Два міліцыянты білі яго кулакамі ў твар, цягалі па зямлі. У выніку гэтакага «затрыманьня» з мужчыны была сарваная ўся вопратка, ён застаўся па пояс голы. Людзі, што стаялі побач пачалі выказваць абурэньне дзеяньнямі «ахоўнікаў правапарадку». Галіна Рабянкова вырашыла сфатаграфаваць гэты момант. Пры сабе яна мела фотаапарат (падчас «Маршу...» яна рабіла фотаздымкі па просьбе Кальварыйскай Рады БНФ «Адраджэньне», сябрам якой зьяўляецца). Калі яна зрабіла некалькі здымкаў, адзін з міліцыянтаў нечакана накінуўся на яе і зьбіў з ног. Спадарыня Г. Рабянкова ўпала на асфальт і да крыві разьбіла руку. Міліцыянт пачаў цягнуць яе да другога свайго калегі пры гэтам ён крычаў: «Яна сфатаграфавала нас». Міліцыянты выхапілі з рук Г. Рабянковай фотаапарат, вынялі з яго фотастужку і на вачах у Г. Рабянковай ды іншых сьведкаў парвалі яе на дробныя кавалкі. Потым выхапілі з яе рук пакет і сумку і пачалі вобыск. Знайшлі некалькі налепак «Марш Свабоды-2». Убачыўшы іх, міліцыянты пачалі крычаць, што «бэнээфаўцаў трэба ўсіх перадавіць» і «я адзін раз дзьвіну табе дубінкай у зубы – у цябе ўсе зубы павылятаюць». Супрацоўнікі міліцыі абражалі Г. Рабянкову нецэнзурнай лаянкай. Спадарыня Г. Рабянкова спрабавала высьветліць іх прозьвішчы, але замест адказу адзін з «герояў» пырснуў ёй у твар сьлезацечным газам.

Пасьля гэтага інцыдэнту сп. Г. Рабянкова была вымушаная зьвярнуцца ў Праваабарончы Цэнтр «Вясна». Паводле заявы Г.Рабянковай была складзеная скарга ў Гарадскую пракуратуру.

**Інфармацыйны аддзел «Вясны»**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Абаранілі...

Навучэнцы мінскага беларускага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа Андрусь Бандаровіч і Сяргей Хадаркевіч 14 сакавіка зьвярнуліся з заявай у Праваабарончы Цэнтр «Вясна». У заяве яны пішуць, што ў метро да іх падышлі два невядомыя хлопцы і сарвалі з іх вопраткі значкі «Марш Свабоды-2». Невядомыя, па словах пацярпелых, былі апранутыя ў камуфляжную форму і нагадвалі прадстаўнікоў прафашысцкай арганізацыі РНЕ. Андрусь і Сяргей прапанавалі ім прайсьці разам у бліжэйшы пункт аховы правапарадку метрапалітэну. Там яны былі вельмі зьдзіўленыя, калі невядомыя, якія прыйшлі з імі ў пастарунак, заявілі, што затрымалі Сяргея і Андруся падчас расклейкі ўлётак. Міліцыянты адразу схапілі заплечнікі Сяргея і Андруся і пачалі іх абшукваць, а невядомых у камуфляжы адпусьцілі, не сказаўшы ні слова.

У заплечніку хлопцаў было знойдзена некалькі налепак «Марш Свабоды-2» і два значкі. На ўсе пратэсты хлопцаў і пытаньні пра падставы затрыманьня міліцыянты ніяк не рэагавалі. На просьбу патэлефанаваць адказалі, што гэта не затрыманьне, а проста звычайная размова.

Хлопцы прапанавалі міліцыянтам пазваніць свайму начальству і запытацца пра дазвол на правядзеньне «Маршу Свабоды-2». Пазваніўшы, міліцыянты вярнулі частку ўлётак Сяргею. На разьвітаньне сказалі хлопцам, што калі б яны (міліцыянты) былі без формы, дык «жывымі з пакою хлопцы не выйшлі б» і параілі Андрусю з Сяргеем надалей пры сустрэчы з імі «хавацца».

# "Як гэта было?"

Праваабарончая арганізацыя "Прававая дапамога насельніцтву" падрыхтавала сьпецвыпуск незалежнага расьсьледаваньня пад назовам "Як гэта было?", прысьвечаны падзеям 17 кастрычніка 1999 году падчас "Маршу Свабоды-1". Сьпецвыпуск уяўляе сабой зборнік публікацыяў у друку, дакументаў, сьведчаньняў відавочцаў. Пра працу над выданьнем і дзейнасьць "Прававой дапамогі насельніцтву" распавёў старшыня арганізацыі Алег Волчак. На прэзентацыі выступілі таксама пацярпелыя ад дзеяньняў сьпецназаўцаў і міліцыянтаў пасьля "Маршу Свабоды-1" Аляксандр Шчурко, Уладзімір Зьвернік, Дзяніс Чарноў — сын Уладзіміра Чарнова, які папрасіў палітычнага прытулку ў Галандыі, і іншыя, а таксама вядомыя праваабаронцы. У прэзентацыі прыняў удзел і намесьнік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч.



Алег ВОЛЧАК і Валянцін СТЭФАНОВІЧ.
Фота "ПнВ"

# Трапіў пад "прэс"...

## *Палітвязень Уладзімір Кудзінаў пакараны на сем сутак штрафнога ізалятару*

Вязень сумленьня, дэпутат ВС РБ 13-га скліканьня Уладзімір Кудзінаў, які знаходзіцца ў месцах пазбаўленьня волі з восені 1997 году, 1 сакавіка быў пакараны на 7 сутак утрыманьня ў штрафным ізалятары. Як стала вядома ПЦ «Вясна», пакараны У.Кудзінаў за такое вось «парушэньне» рэжыму: калі скончылася ранішняя зарадка, У.Кудзінаў разам з іншымі зьняволенымі пайшоў у курылку і там закурыў. У гэты час міма праходзіў оперупаўнаважаны Карулін, які таксама прысутнічаў на зарадцы. Убачыўшы У.Кудзінава з цыгарэтай у руцэ, ён, расштурхоўваючы іншых асуджаных, кінуўся да яго і зрабіў заўвагу, што той быццам бы рана закурыў. Было відавочна, што Каруліна цікавіць толькі У.Кудзінаў, бо іншым зьняволеным заўвагаў ён не зрабіў. Адразу ж Карулін склаў рапарт, і Кудзінаў быў пакараны. З дзеяньняў Каруліна яскрава праглядаецца заказ кіраўніцтва за штонебудзь пакараць дэпутата.

Варта адзначыць, што адносіны У.Кудзінава з асобнымі службовымі асобамі калоніі, дзе ён адбывае пакараньне, заўсёды былі даволі складанымі з-за таго, што з боку адміністрацыі было відавочным жаданьне выконваць загады, якія яна атрымлівала ад службы бясьпекі. І таму, калі ў газетах «засьвяцілася» прозьвішча У.Кудзінава, адразу ж зьявіўся загад, каб яго «заціснулі» і ўключылі так званы «прэс». Адзін за адным сталі зьяўляцца рапарты на быццам бы парушэньні рэжыму асуджаным дэпутатам Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Гэтыя рапарты тычыліся, да прыкладу, таго, што хворы У.Кудзінаў ня змог сам памяняць бялізну і даручыў гэта іншаму асуджанаму альбо таго, што ён, ня ведаючы, што яго выкрасьлілі з ліку ўдзельнікаў шахматнага турніру, зьявіўся на яго.

Гэты інтэнсіўны пошук «парушэньняў рэжыму» зьвязаны з тым, што набліжаецца амністыя. Адміністрацыі неабходна мець гэткія «парушэньні рэжыму» вязьнем дзеля таго, каб не ўключыць яго ў шэраг амніставаных, а ў дадзеным канкрэтным выпадку, каб У.Кудзінаў ня мог быць амніставаным.

Трэба адзначыць, што здароўе У.Кудзінава за гады знаходжаньня за кратамі значна пагоршылася. Гэта пацьвярджае той факт, што ён страціў за тры гады зьняволеньня 40 кілаграмаў вагі.

# Сто дзён на волі

Паважаны на Беларусі чалавек, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня знакамітага калгасу "Расьсьвет" Магілёўскай вобласьці Васіль Старавойтаў па надуманым абвінавачаньні, а дакладней, з-за асабістай помсты А. Лукашэнкі (бюлетэнь "Права на волю" пісаў пра гэта неаднойчы), два гады адсядзеў за кратамі. Праз сто дзён пасьля яго вызваленьня адвакат Вера Страмкоўская, супраць якой падчас судовага працэсу таксама была ўзбуджаная крымінальная справа, арганізавала прэс-канферэнцыю са сваім падабаронным Васілём Старавойтавым у офісе Цэнтру па правах чалавека, які яна ўзначальвае. Спадар Старавойтаў распавёў пра свае ўражаньні ад вяртаньня ў вольнае жыцьцё, ад вяртаньня ў родную вёску і гаспадарку, а таксама пра перадгісторыю ягонага арышту. Ён выказаў свае перакананьне, што цяперашні рэжым ня вечны і што вельмі хутка Беларусь пазбавіцца путаў таталітарызму.


Васіль СТАРАВОЙТАЎ і Вера СТРАМКОЎСКАЯ.
Фота "ПнВ"



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Швецыя зьблізку

***Працягваецца супрацоўніцтва і абмен вопытам Праваабарончага Цэнтру "Вясна" са сваімі заходнімі калегамі. Напачатку сакавіка беларускія праваабаронцы правялі тыдзень у дэмакратычнай Швецыі па запрашэньні міратворчай арганізацыі Svenska Freds. Svenska Freds існуе ў Швецыі больш за сто гадоў і займаецца праблемамі дэмакратызацыі грамадзтва і мірнага вырашэньня канфліктаў. Пад асаблівай увагай арганізацыі знаходзяцца, напрыклад, такія нестабільныя рэгіёны Еўропы, як краіны былой Югаславіі альбо Расійская Федэрацыя. Шведзкія міратворцы змагаюцца за скарачэньне ўзбраеньняў і супраць прымяненьня некаторых відаў зброі (напрыклад, супрацьпехотных мінаў). Барацьба за мір і правы чалавека – традыцыйная рэч для Швецыі: вось ужо 180 гадоў гэтая краіна ні з кім не ваюе. Дэлегацыя "Вясны" уключала ў сябе прадстаўнікоў пяці рэгіёнаў нашай краіны. Праграма знаходжаньня беларусаў па той бок Балтыкі атрымалася надзвычай насычанай: за тыдзень адбыліся дзясяткі сустрэчаў са шведзкімі школьнікамі, студэнтамі, настаўнікамі, журналістамі, праваабаронцамі, парламентарыямі, нават міліцыянтамі. Паўсюль мы пабачылі вялікую цікавасьць да Беларусі. І, у сваю чаргу, мелі магчымасьць задаваць пытаньні самі, даведаўшыся, такім чынам, нямала цікавага пра краіну свайго гасьцяваньня.***



**Супрацоўнікі "Вясны" Паліна СЬЦЕПАНЕНКА і Тацяна СЬНІТКО ў камеры шведзкай турмы.** Фота "ПнВ"

## Шведзкая турма

У турму мы патрапілі ў першы ж дзень. Як кліенты. Праўда, то была толькі экскурсія. Сьледчы ізалятар гораду Стакгольму нязвыклае вока госьця з постсавецкага ўсходу можа прыняць за шпіталь альбо гатэль. Дарэчы, побач з гэтым "гатэлем" месьціцца будынак, які я спачатку доўга фатаграфавала як адметнасьць архітэктуры, прыняўшы за храм ці ўніверсітэт. Аказалася, гэта гарадское ўпраўленьне паліцыі Стакгольму.

Стакгольмскі сьледчы ізалятар – Кронабэргсхэктэт – ня мае на выгляд нічога агульнага з нашай знакамітай "Валадаркаю". У холе няма доўгай чаргі стомленых, нярвовых сваякоў зьняволеных, якія баяцца не пасьпець на спатканьне, не аддаць перадачу, не патрапіць на прыём да начальніка... Замест іх – шкляная перагародка, дзе сядзяць два дзяжурных і некалькі наведнікаў. Адзін з іх гаворыць па тэлефоне, дзьве жанчыны з каляскаю і дзіцём гамоняць пра нешта і ўсьміхаюцца.

Турма Кронабэргсхэктэт выглядае як новая, хоць адчыненая была яшчэ ў 1975-м годзе. Паверыць у пабачанае на свае вочы і пачутае ад намесьніка начальніка па бясьпецы Матса Ландэбрынка часам было магчыма не адразу. Напрыклад, я не магла ўцяміць, як гэта больш чымсьці 60 адсоткам падсьледных дазваляецца перапіска і спатканьні раз на тыдзень, і пры гэтым турэмная ахова правярае лісты толькі на наяўнасьць наркотыкаў і не чытае іх. Папершае, беларускім ахоўнікам заўсёды чамусьці цікава быць цэнзарамі, па-другое, у мяне вунь і на волі амаль тры месяцы не прыходзілі ні лісты, ні навагоднія паштоўкі, а ліст ад мастака Алеся Пушкіна зьнік з заклеенага канверта. А тут жа – турма!

Спадар Ландэбрынк таксама не разумеў некаторых пытаньняў. Скажам, яго вельмі зьдзівіла, што органы аховы парадку могуць чытаць лісты грамадзянаў дзеля лепшага выніку сьледчага працэсу. Можна дазволіць вязьню ліставаньне ці гэта пашкодзіць сьледзтву, у Швецыі вырашае пракурор, а адміністрацыя турмы павінная падпарадкоўвацца пракурору.

Акрамя расповяду пра рэжым і ўмовы ў турме Кронабэргсхэктэт і іншых турмах, намесьнік начальніка па бясьпецы правёў нас па многіх памяшканьнях гэтай установы. Але распавяду пра гэта больш падрабязна іншым разам. Бо тэма гэтая асобная. Скажу толькі, што ня кожны наш гатэль можа пасапернічаць умовамі жыцьця са шведзкаю турмой.

## Шведзкія школы

У Швецыі базавая (абавязковая для ўсіх) адукацыя – 9 гадоў. Потым большасьць падлеткаў ідзе вучыцца ў гімназіі. Звычайна яны маюць адзін альбо некалькі прафілюючых прадметаў. Гэта могуць быць і грамадзкія навукі, і эканоміка, і спорт, і нейкая замежная мова. Часьцей за ўсё нам даводзілася размаўляць менавіта з гімназістамі (па-нашаму – старшакласьнікамі) з самай рознай сьпецыялізацыяй навучаньня. Але былі сустрэчы і са студэнтамі вышэйшых школаў, універсітэтаў, і з асьпірантамі міжнароднага інстытута. Запрашэньні выступіць паступілі з розных рэгіёнаў і прыгарадаў Стакгольму, з гарадоў Упсала, Арэбра, Скоўдэ і некаторых іншых.

Дэлегацыя "Вясны" у поўным складзе не магла б фізічна патрапіць на ўсе гутаркі і семінары, на якія нас запрасілі навучэнцы і іх выкладчыкі. Таму мы падзяліліся на групы. У кожнай групе быў сябра Svenska Freds, які добра валодаў рускай мовай. Цікава, што вельмі часта шведзкія падлеткі прасілі нас пагаварыць паміж сабой па-беларуску, каб параўнаць хаця б на слых дзьве мовы двух славянскіх народаў. Нашая мова кожны раз вельмі ўражвала шведаў – як мне патлумачылі, адначасова сваёй прыгажосьцю і поўнай незразумеласьцю нават для перакладчыкаў з рускай. Вельмі часта даводзілася таксама гаварыць пра гісторыю Беларусі, пра чарнобыльскую бяду, ды й нават проста паказваць нашу краіну на мапе.

Некалькі разоў у гімназіях мы правялі маленькі эксьперымент: перад пачаткам гутаркі запыталі, хто што чуў пра Беларусь, якіх вядомых асобаў адтуль памятае. Паводле маіх назіраньняў, першае месца па вядомасьці з вялікім адрывам займае Вольга Корбут. Два чалавекі ў дзьвюх розных школах нават згадалі, што знакамітую чэмпіёнку сьвету па гімнастыцы шведы пяшчотна называлі "верабейчык з Мінску". Нашмат радзей наша краіна выклікала асацыяцыю з Чарнобылем, і толькі на трэцім месцы па вядомасьці быў Лукашэнка. Пару разоў Беларусь зблыталі з Украінай, прыгадаўшы футбаліста Андрэя Шаўчэнку, скакуна з шастом Сяргея Бубку і нават... цяперашняга ўкраінскага прэзідэнта Леаніда Кучму.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



Пазьней настаўнікі распавядалі, што пасьля сустрэчы з намі іхнія вучні дружна шукалі назву "Беларусь" у Інтэрнэце ды энцыклапедыях...

У многіх навучальных установах мы са шведзкімі сябрамі паказвалі ўрыўкі з фільму "Страх". Распавядалі пра далейшыя лёсы некаторых герояў фільма: Лявонава, Клімава, Ганчара... Даводзілася адказваць на многія пытаньні пра сёньняшнюю сітуацыю ў краіне. Часьцей за ўсё шведзкую моладзь цікавіла: калі ў нас будуць выбары; ці не было ў нас праблемаў з выездам за мяжу; якія погляды ў беларускай моладзі на будучыню Беларусі; што нам будзе ад рэжыму, калі вернемся дамоў.

## Сустрэчы
### з праваабаронцамі

З праваабаронцамі мы сустракаліся ў самых розных гарадах Швецыі. Гэта былі прадстаўнікі розных арганізацыяў, у тым ліку – "Amnisty International", шведзкай арганізацыі СПАС і шведзкага аддзяленьня Хельсінкскага камітэту. Натуральна, гэтыя людзі былі добра інфармаваныя пра Беларусь і задавалі часам не такія простыя пытаньні пра нашую рэчаіснасьць. Мы бралі ўдзел у некалькіх семінарах і дыскусіях на тэму правоў чалавека ў Беларусі. "Міжнародная амністыя" запрасіла прадстаўнікоў "Вясны" на сваю штогадовую справаздачу, якая адбудзецца ў жніўні.

Яшчэ ў школах мяне ўразіла, што сярод сяброў праваабарончых арганізацыяў Швецыі вельмі многа настаўнікаў. Іх жа ўразіла тое, што, калі б яны жылі ў нашай краіне, то маглі б быць выгнаныя з працы за "уцягваньне дзяцей у палітыку".

## Сустрэчы
### з журналістамі

За тыдзень перабываньня дэлегацыі "Вясны" у гарадах Швецыі матэрыялы пра наш прыезд пасьпелі надрукаваць некалькі шведзкіх газетаў. Паралельна з гэтым мас-медыя зьмяшчалі агульную інфармацыю пра Беларусь разам з асноўнымі вехамі яе палітычнай "біяграфіі". З журналістамі мы мелі справу пастаянна, хаця б таму, што усе трое нашых перакладчыкаў маюць вопыт працы ў гэтай прафесіі і бывалі на Беларусі.

Вялікую прэс-канферэнцыю правяла адна з нашых групаў, наведаўшы вялікі горад Арэбра.

Бадай, самыя вялікія і падрабязныя інтэрв'ю з прадстаўнікамі "Вясны" запісалі рускамоўнае "Радыё Швецыі" і шведзкамоўны часопіс "РАХ" ("Сьвет").

Прэса Швецыі цалкам адрозная ад нашай. Па-першае, зьнешне: яна з каляровымі здымкамі; па-другое, там існуе свабода слова не на паперы. Пра газеты кажуць не столькі "дзяржаўныя" і "недзяржаўныя", колькі больш дакладна характарызуючы іх прыналежнасьць да той ці іншай партыі альбо плыні: "сацыял-дэмакратычныя", "незалежныя", "ліберальныя", "правыя".

Самая папулярнае шведзкае выданьне – штодзённая шматтыражная газета "Metro", якую бясплатна можна ўзяць проста ў метрапалітэне. Цікавай зьявай здалося мне існаваньне сьпецыяльнага часопіса для беспрацоўных. Ён выдаецца дзеля таго, каб беспрацоўныя маглі прадаваць часопіс у транспарце, на вуліцы ды мець нейкі заробак.

## Няміга
### па-шведзку

Увосень мінулага году Швецыя таксама пабачыла масавую гібель людзей. І таксама маладых. Дзіўна, але іх была амаль такая ж колькасьць: пад 60. Адрозьненьне ж у сьвятах, на якія прыпалі трагедыі, даволі значная. У нас дзеці загінулі на канцэрце на Троіцу, а ў шведзкім горадзе Гётэборгу – на дыскатэцы падчас Хэлоўіна. На Захадзе ў многіх краінах Хэлоўін супадае з нашымі Дзядамі. Лічыцца, што ў гэты дзень духі памерлых выходзяць на паверхню, а разам з імі – нячыстая сіла, якая ўчыняе няшчасьці і беды.

Зараз у турме ў Гётэборгу знаходзяцца некалькі затрыманых маладых людзей, якіх паліцыя падазрае ў падпале дыскатэкі. Напачатку гэты падпал прыпісвалі мясцовым фашыстам, бо сярод загінуўшых пераважна эмігранты альбо нашчадкі эмігрантаў, але тая версія не пацьвердзілася ў часе сьледзтва. Чакаецца, што недзе праз месяц кропкі над "і" у гэтай справе расставіць суд. Пакуль жа бацькі ахвяраў пажару ў Гётэборгу, як і нашыя бацькі загінуўшых "ад навальніцы" на Нямізе, аб'ядналіся ў сваю арганізацыю. Яны ствараюць цэнтр памяці сваіх дзяцей і, як і ў Мінску, пра іх пішуць кнігу.

## Рыксдаг

Рыксдаг — гэта назва шведзкага парламенту. З 349 дэпутатаў (натуральна, абраных народам, а не такіх, як у Лукашэнкі ў Нацыянальным сходзе) 131 абраны ад сацыял-дэмакратычнай партыі. Маючы больш за астатніх партыяў месцаў у парламенце, сацыял-дэмакраты называюцца правячай партыяй. А яшчэ ў Рыксдагу прадстаўленыя левая партыя (былыя камуністы), умераная (колішнія правыя), хрысьціянска-дэмакратычная і аграрная (цэнтрысцкая) партыі, лібералы і "зялёныя".

Госьці з Беларусі мелі цікавую сустрэчу з дэпутатам ад сацыял-дэмакратаў Тоне Цінгсгард. Спадарыня Цінгсгард уваходзіць, дарэчы, у парламенцкую камісію па абароне, якая цяпер шмат дыскутуе вакол прапановы шведзкага ўраду скараціць у краіне колькасьць узбраеньняў. Цікава таксама, што ў органах улады Швецыі 44 працэнты складаюць жанчыны.

Беларускія праваабаронцы адказалі на пытаньні дэпутата Рыксдагу. Як паведаміла нам спадарыня Цінгсгард, у Рыксдагу дзейнічае нядаўна створанае таварыства "Беларусь – Швецыя", а наша краіна апошнім часам стала разглядацца як адзін з прыярытэтных для інтарэсаў Швецыі рэгіёнаў, хоць раней нашмат больш увагі шведзкія ўлады ўдзялялі разьвіцьцю дэмакратыі ў Літве, Латвіі, Эстоніі.

У дзень нашага візіту ў Рыксдаг у Стакгольм прыбыла дэлегацыя прадстаўнікоў Еўрапейскай супольнасьці для нарады са шведзкімі дэпутатамі аб маючых адбыцца слуханьнях па Беларусі на вышэйшым еўрапейскім узроўні.

Пасьля гутаркі з дэпутатам нас правялі па Рыксдагу з экскурсяй. І не толькі нас. У гэты дзень парламент наведвалі таксама шведзкія студэнты, а ўвогуле прыйсьці ў залу паседжаньняў мае права, па шведзкіх законах, любы грамадзянін. Ён можа паслухаць абмеркаваньне парламентарыямі тых пытаньняў і законаў, якія яго асабліва хвалююць і цікавяць. Напэўна, наш чытач ведае, што ў наш беларускі Дом ураду нават я, журналістка, магу патрапіць толькі пасьля афармленьня адмысловага пропуску. Але зараз гэта праблематычна, паколькі і пропуску мне не дадуць, і дыктатарскі "парламент" нікому не цікавы...

**Тацяна СЬНІТКО**

# Сьпецслужбы цікуюць...

2 сакавіка ў Праваабарончы Цэнтр "Вясна" зьвярнуўся Міраслаў Лазоўскі, які паведаміў, што 1 сакавіка ён быў затрыманы ў Мінску на станцыі метро "Кастрычніцкая" і дастаўлены ў ГАМ-1, дзе на яго быў складзены пратакол канфіскацыі ўлётак незарэгістраванай арганізацыі "Белы легіён", якія ён меў пры сабе. Пасьля гэтага М.Лазоўскі быў пераведзены ў Ленінскі РАУС г.Мінска, дзе на яго быў складзены пратакол адміністратыўнага затрыманьня і праваnарушэньня. У Ленінскім ГАМ ён утрымліваўся ўсю ноч, дзе меў размову з супрацоўнікам КДБ, выкліканым міліцыянтамі. Размова з прадстаўніком сьпецслужбы насіла нефармальны характар і не фіксавалася ў выглядзе пратаколу. Супрацоўніка КДБ цікавіла інфармацыя пра асобу М.Лазоўскага і ягоных сяброў і многае іншае.

На наступны дзень, 2 сакавіка, затрыманы быў дастаўлены ў суд Ленінскага раёну, дзе судзьдзя Жданок вынес пастанову аб прыцягненьні яго да адміністратыўнай адказнасьці за ажыцьцяўленьне дзейнасьці ад імя незарэгістраванай арганізацыі. На М.Лазоўскага быў накладзены штраф у памеры 15 мінімальных заробкаў. Але і на гэтым ягоная справа не была скончаная – з будынку суда ён быў дастаўлены ў Першамайскі РАУС г.Мінску для "гутаркі" з намесьнікам начальніка РАУС, у якой апошні выказаў незадаволенасьць тым, што фактычна ўвесь горад абклееныя ўлёткамі і распісаны лозунгамі апазіцыйнага зьместу. У Першамайскім РАУС быў складзены яшчэ адзін пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні па арт. 172 ч.3 КаАП РБ (распаўсюджваньне друкаванай прадукцыі без выходных дадзеных). Матэрыялы былі перададзеныя на адміністратыўную камісію адміністрацыі Першамайскага раёну. Факт затрыманьня і пакараньня М.Лазоўскага яскрава сьведчыць аб актывізацыі сьпецслужбаў напярэдадні «Гарачай вясны-2000» і ўвазе да дзейнасьці маладзёжных арганізацыяў.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

***P.S.*** **У ПЦ "Вясна" няма зьвестак пра тое, што быў затрыманы хоць нехта з прафашысцкай арганізацыі РНЕ, улёткамі якой і сапраўды абклеены ўвесь горад Мінск...**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 . © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*29 лютага* ў Брэсьце адбыўся чарговы раунд так званай апраўдаўчай судовай справы сп. Г. Самойленкі. Сэнс гэтай справы ў тым, што сп.Самойленка адсядзеў 10 сутак у ізалятары часовага ўтрыманьня, але пры гэтым у судовай справе былі груба парушаныя ягоныя правы грамадзяніна – адмоўлена ў адвакаце і сьведках. Брэсцкі абласны суд адмяніў папярэднюю пастанову, і справа была накіраваная на пераразгляд. У час пераразгляду ў судзе сьведка Яўген Бяласін адмовіўся даваць сьведчаньні на рускай мове. Быў зроблены перапынак, і судзьдзя сп. М.Шапацюк зрабіў намаганьне знайсьці перакладчыка з беларускай мовы, але такога ў Ленінскім РАУС не знайшлося, таму справа была перанесеная на нявызначаны тэрмін.

*29 лютага* Мінскі абласны суд сваёй пастановай адмяніў пастанову суда Салігорскага р-ну і г. Салігорску, згодна з якой актывіст БНФ «Адраджэньне» Валянцін Баранаў быў аштрафаваны на 29 мільёнаў рублёў за тое, што 28 лістапада 1999 году нібыта арганізаваў несанкцыянаванае шэсьце і мітынг у в. Чырвоная Слабада. Варта адзначыць, што кожны год 28 лістапада ў г. Слуцк з Мінску прыязджаюць людзі, каб адзначыць угодкі слуцкага антыбальшавіцкага паўстаньня 1920 году. Людзі наведваюць вёскі, у якіх праходзілі баі паўстанцаў з бальшавіцкімі войскамі, сьпяваюць памінальныя і патрыятычныя песьні, ускладаюць кветкі. З 1994 году фактычна кожная паездка заканчваецца тымі ці іншымі перашкодамі з боку ўладаў. Некалькі гадоў запар людзей затрымліваюць і абвінавачваюць у арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця альбо мітынгу. Гэтак было пазалетась, калі да адміністратыўнай адказнасьці ў якасьці арганізатараў былі прыцягнутыя актывісты БНФ М. Анцыповіч і Г. Банкевіч. Але тады Вярхоўны суд адмяніў пастанову Слуцкага суда, паколькі справа была разгледжаная з грубымі парушэньнямі закону, і накіраваў справу на новы разгляд. Пасьля перагляду справы ў судзе г. Слуцку яна была спыненая за адсутнасьцю складу адміністратыўнага правапарушэньня ў дзеяньнях М. Анцыповіча і Г. Банкевіча. Вось і летась гісторыя зноўку паўтарылася, але ў якасьці ахвяры быў абраны ўжо іншы чалавек – В. Баранаў. Пасьля вынясеньня пастановы аб прыцягненьні да адміністратыўнай адказнасьці В. Баранаў зьвярнуўся ў Праваабарончы цэнтр «Вясна» і з дапамогай юрыста цэнтру падаў скаргу на імя старшыні Мінскага абласнога суда. У выніку пастанова суда Салігорскага раёну і г. Салігорску была адмененая і накіраваная на новы разгляд. Ці атрымаецца Баранаву перамагчы салігорскі суд і даказаць сваю невінаватасьць — пакажа час.

*1 сакавіка* пракуратура г. Мінску накіравала ў Мінскі гарадзкі суд на разгляд крымінальную справу, якая тычыцца чатырох удзельнікаў "Маршу Свабоды" 17 кастрычніка 1999 году ў Мінску – Сушкевіча Г.В., Догіля Г.А., Валабуева А.В. і Лазарава А.В. Маладыя людзі абвінавачваюцца па двух артыкулах КК РБ – 186-3 (арганізацыя і ўдзел у групавых дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак) і арт. 201 ч.2 (злоснае хуліганства). Да крымінальнай справы ў якасьці рэчавых доказаў дадаюцца дзьве відэакасеты два кавалкі тратуарнай пліткі.

*1 сакавіка* каля рэзідэнцыі прэзідэнта ў Мінску адбыўся несанкцыянаваны пікет. Удзельнікі пікету – Цімафей Дранчук, Філіп Клікушын, Лявон Малахаў трымалі плакаты, у якіх утрымліваліся патрабаваньні неадкладнага расьследваньня фактаў зьнікненьня вядомых беларускіх палітыкаў Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі і бізьнесьмена Анатоля Красоўскага. Усе ўдзельнікі пікету і некалькі журналістаў, якія прысутнічалі на акцыі, – Альгерд Невяроўскі (радыё «Свабода»), Руслан Бацянкоў (агенцтва БелаПАН), фотакарэспандэнт агенцтва "Рэйтэр" Васіль Фядосенка – былі затрыманыя і дастаўленыя ў ГАМ Ленінскага раёну г.Мінска. Журналісты праз гадзіну былі адпушчаныя, а на астатніх былі складзеныя адміністратыўныя пратаколы. Удзельнікаў пікету абвінавачваюць у дробным хуліганстве. Адміністратыўныя матэрыялы, складзеныя на ўдзельнікаў пікету, былі разгледжаныя судзьдзёй Ленінскага раёну г.Мінска Жданок. Усе затрыманыя атрымалі па пяць сутак адміністратыўнага арышту. У пятніцу ўвечары падчас перавозкі арыштаваных з памяшканьня ГАМ Ленінскага раёну супрацоўнікі міліцыі беспадстаўна выкарысталі фізічную сілу – ударылі Цімафея Дранчука галавой аб машыну, разьбілі акуляры. Арыштаваны атрымаў чэрапнамазгавую траўму, з-за якой 5 сакавіка ягоны стан рэзка пагоршыўся. Цімафея даставілі ў 3-ю гарадзкую клінічную бальніцу, дзе дыягназ быў пацьверджаны. 18-гадовы Ц.Дранчук быў датэрмінова адпушчаны на волю, астатнія пікетчыкі – Леанід Малахаў і Піліп Клікушын – выйшлі на волю 8 сакавіка, адбыўшы свой тэрмін пакараньня цалкам.

*2 сакавіка* ў Мінску адбыўся санкцыянаваны Мінгарвыканкамам мітынг, арганізаваны Саюзам яўрэйскіх грамадзкіх аб'яднаньняў абшчынаў і Беларускім грамадзкім аб'яднаньнем яўрэяў – былых вязьняў гета і нацысцкіх канцлагераў. Мітынг адбыўся каля помніку «Яма» на вуліцы Заслаўскай і быў прымеркаваны да 58-й гадавіны трагедыі, якая здарылася 2 сакавіка 1942 году, калі нямецкія фашысты расстралялі больш за 5000 вязьняў Мінскага гета, уключаючы 200 сіротаў з дзіцячага дому з педагогамі і медперсаналам.

*На пачатку сакавіка* стала вядома, што Алег Батурын, былы супрацоўнік міліцыі, які зрабіў сенсацыйную заяву пра падрыхтоўку правакацыяў і сутычак сьпецслужбамі падчас "Маршу Свабоды-1" 17 кастрычніка, зараз знаходзіцца ў Польшчы. У сваіх інтэрвью польскім выданьням А.Батурын адзначае, што вельмі хвалюецца за сваіх родных, якія засталіся ў Беларусі. Батурын, па ягоных словах, яшчэ ня ведае, колькі прабудзе ў Польшчы, але ёсьць інфармацыя, што ён плануе прасіць палітычнага прытулку ў ЗША.

*4 сакавіка,* падчас сьвяткаваньня Дня беларускай міліцыі, у начной маладзёжнай дыскатэцы «Сьпяваючыя фантаны» супрацоўнік сьпецыяльнага падраздзяленьня МУС «Алмаз» старэйшы лейтэнант міліцыі Ф.Ліфанаў, які быў на добрым падпітку, са службовай зброі расстраляў аднаго амапаўца і параніў яшчэ трох. Юры Сівакоў, міністр унутраных справаў Беларусі, на трагічнае здарэньне адрэагаваў наступным чынам: «Кіраўнікі, якія непасрэдна адказваюць за арганізацыю працы сьпецыяльных падраздзяленьняў і належнае маральна-псіхічнае забесьпячэньне іх дзейнасьці, вызваленыя ад займаемых пасадаў».

*5 сакавіка* журналістка, супрацоўніца незалежнай газеты «Беларуская маладзёжная» Ірына Слаўнікава была затрыманая на станцыі метро «Маскоўская» супрацоўнікамі міліцыі за тое, што яна наклеіла налепку «Game Over»(Гульня скончана). На налепцы намаляваны чалавек вярхом на хакейнай клюшцы, якога падфутбольвае нага ў чаравіку і бел-чырвона-белай шкарпэтцы. У міліцэйскім пакоі, куды была заведзеная журналістка, яе спыталі: «Для чаго вы Лукашэнку клеіце?», на што тая адказала: «А дзе вы бачыце Лукашэнку?» Паўтары гадзіны І.Слаўнікава знаходзілася ў пакоі міліцыі, на яе быў складзены пратакол аб парушэньні арт. 143 КаАП – расклейка аб'яваў у забароненых месцах».

*6 сакавіка* делегацыя беларускай апазіцыі – каардынатар Хартыі-97 А.Саньнікаў, старшыня АГП С.Багданкевіч, старшыня БНФ В.Вячорка, віцэ-сьпікер ВС РБ 13-га скліканьня А.Лябедзька (які, нарэшце, атрымаў пашпарт), віцэ-прэзідэнт Беларускага кангрэсу незалежных прафсаюзаў В.Івашкевіч, намесьнік старшыні БСДП А.Кароль (М.Статкевіча не выпусьцілі), старшыня грамадзкага аб'яднаньня «Гродзенскія ініцыятывы» С.Домаш, прэзідэнт БАЖ Ж.Ліцьвіна – прыбыла ў Стакгольм для сустрэчаў ва ўрадавых колах краіны і грамадзкіх арганізацыях. На сустрэчах, арганізаваных на розных узроўнях, беларускія палітыкі і грамадзкія дзеячы распавядалі пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі і аб перспектывах перамоўнага працэсу паміж афіцыйнымі ўладамі і апазіцыяй.

*7 сакавіка* Грамадзкае аб'яднаньне «Праваабарончы цэнтр «Вясна» сумесна з грамадзкім аб'яднаньнем «Прававая дапамога насельніцтву» і грамадзкім аб'яднаньнем «Цэнтр па правах чалавека» прынялі агульную заяву, якую накіравалі ў сродкі масавай інфармацыі. У заяве сказана: «У сувязі з пагаршэньнем сітуацыі з правамі чалавека ў Рэспубліцы Беларусь і напярэдадні масавых выступаў грамадзянаў Рэспублікі Беларусь:

— заклікаем усе дзяржаўныя органы, грамадзкія аб'яднаньні і арганізацыі ажыцьцяўляць сваю дзейнасьць у рамках Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і іншых міжнародных актаў у галіне правоў чалавека, ратыфікаваных Рэспублкай Беларусь,

— заклікаем не дапускаць гвалтоўных метадаў падаўленьня мірных шэсьцяў і дэманстрацыяў,

— заклікаем дэмакра-

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020






*На здымках: Мінск, 9 сакавіка — палітвязень Андрэй КЛІМАЎ у зале суда; Пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл СЬПЕКХАРД (справа) гутарыць з жонкай А. Клімава Тацянай.*




тычныя сілы з'яднаць шэрагі дзеля ўсталяваньня атмасферы ўзаемнага даверу і пабудовы грамадзянскай супольнасьці як аснову дэмакратычнай Беларусі,

— асуджаем падаўленьне іншадумства любымі спосабамі ў адносінах да ўдзельнікаў мірных маніфестацыяў».

Праваабарончыя арганізацыі выказалі ў сувязі з гэтым гатоўнасьць аказаньня прававой і інфармацыйнай дапамогі грамадзянам, правы якіх былі парушаныя.

*7 сакавіка* сьледчы па важнейшых справах пракуратуры г.Мінска юрыст 1 класа Фешчанка В.А. вынес пастанову аб прыцягненьні Статкевіча М.В., старшыні БСДП, у якасьці абвінавачанага па крымінальнай справе, узбуджанай супраць яго пасьля акцыяў 27 ліпеня і 17 кастрычніка мінулага году. Згодна з вынесенай сьледзтвам пастановай, М. Статкевіч абвінавачваецца ў зьдзяйсьненьні злачынства, прадугледжанага арт. 186-3 КК РБ (арганізацыя ці актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак). У пастанове аб прыцягненьні ў якасьці абвінавачваемага гаворыцца, што М. Статкевіч, зьяўляючыся арганізатарам дэманстрацыі 27 ліпеня 1999 году, у парушэньне рашэньня Мінгарвыканкаму наўмысна заклікаў удзельнікаў шэсьця зьмяніць дазволены Мінгарвыканкамам маршрут руху , а таксама ў тым, што 17 кастрычніка 1999 году заклікаў удзельнікаў мітынгу на пл. Бангалор прайсьці па вуліцах гораду, што зьяўляецца арганізацыяй несанкцыянаванага шэсьця. Такое ж самае абвінавачаньне прад'яўленае і В. Шчукіну (адносна 17 кастрычніка 1999 г.). Сьледзтва па справе М. Статкевіча і В. Шчукіна ўжо скончанае, і зараз абвінавачаныя знаёмяцца з матэрыяламі папярэдняга сьледзтва. У хуткім часе справа будзе накіраваная ў Мінскі гарадзкі суд і будзе прызначаная дата чарговага гучнага палітычнага працэсу.

*9 сакавіка,* як было прызначана раней, павінен быў быць вынесены прысуд вязьню сумленьня, дэпутату ВС РБ 13-га скліканьня Андрэю Клімаву і васьмі ягоным «паспраўнікам». Аднак судзьдзя Ленінскага раённага суда Вера Тупік, заслухаўшы апошняе слова апошняга з падсудных Калацііліна, абвясьціла аб тым, што вынясеньне прысуду пераносіцца на 17 сакавіка.

*10 сакавіка* ў памяшканьні амбасады ЗША адбылася відэаканферэнцыя з удзелам сакратара Дзяржэпартаменту ЗША па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Геральда Коў і прадстаўнікоў праваабарончых арганізацыяў Беларусі – Валянцінам Стэфановічам (ПЦ «Вясна»), Тацянай Працька (БХК), Алегам Волчакам («Прававая дапамога насельніцтву»), Верай Страмкоўскай (Цэнтр па правах чалавека) і Зьміцерам Бандарэнкам («Хартыя-97»). Сустрэча адбывалася па выніках слуханьняў дакладу па правах чалавека ў Беларусі, якія напярэдадні праходзілі ў Кангрэсе ЗША. Падчас відзасустрэчы прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацыяў выказалі сваё меркаваньне і бачаньне сёньняшняй сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, а таксама з так званым «дыялогам», які быццам бы распачалі беларускія ўлады. У прыватнасьці, было адзначана, што фактычна ніводная праваабарончая арганізацыя не была запрошаная да гэтага дыялогу, і што гэты дыялог не паўплываў станоўчым чынам на агульную сітуацыю з правамі чалавека ў краіне. Сп. Коў выказаў падтрымку дзейнасьці праваабарончых арганізацыяў Беларусі ад імя прэзідэнта ЗША Біла Клінтана і дзяржсакратара Мадлен Олбрайт.

*13 сакавіка,* падчас візіту ў Беларусь дарадцы сакратара дзяржэпартаменту ЗША па пытаньнях новых незалежных дзяржаваў Роса Уілсана, адбывалася ягоная сустрэча са сваякамі палітвязьняў і зьніклых дзеячаў апазіцыі: Зояй Кудзінавай (жонкай Уладзіміра Кудзінава), Тацянай Клімавай (жонкай Андрэя Клімава), маці Андрэя Клімава Алай Пятроўнай, Сьвятланай Уласавай (дачкой Васіля Лявонава), Зінаідай Ганчар (жонкай Віктара Ганчара), Вольгай Захаранка (жонкай Юрыя Захаранкі). На сустрэчы ўсе прысутныя распавялі пра справы сваіх блізкіх, абмалявалі агульную сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі, закранулі пытаньні адсутнасьці незалежнай судовай улады ў краіне, адсутнасьць незалежных адвакатаў. Родныя палітзьняволеных выказалі занепакоенасьць пагаршэньнем стану здароўя сваіх блізкіх з-за кепскіх умоваў утрыманьня ў месцах зьняволеньня. Рос Уілсан быў уражаны тым, што напрыканцы XX стагодзьдзя ў цэнтры Еўропы так груба парушаюцца асноўныя правы чалавека, і выказаў занепакоенасьць агульнай сітуацыяй з захаваньнем правоў чалавека ў Беларусі. Падчас свойго візіту ў Беларусь дарадца Дзяржэпартаменту ЗША зьвярнуўся да беларускіх уладаў з просьбай забясьпечыць свабоду сходаў і не выкарыстоўваць сілу падчас правядзеньня "Маршу Свабоды -2".

*14 сакавіка* пасьпяхова завяршылася справа А.Пікулы – старшыні Баранавіцкай гарадзкой рады БНФ «Адраджэньне». Нагадаем, што 22 кастрычніка 1999 году А.Пікула быў зьбіты супрацоўнікамі міліцыі за выкрык «Жыве Беларусь!» (глядзіце №2 бюлетэню «Права на волю» за бягучы год). Алесь Пікула быў пратрыманы з пашкоджанай міліцыянтамі рукой да суда 3 сутак, а потым прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасьці за дробнае хуліганства ў выглядзе штрафу. А.Пікула падаў скаргу на імя старшыні Брэсцкага гарадзкога суда, які адмяніў пастанову Баранавіцкага суда і накіраваў справу на новы разгляд, які адбыўся 14 сакавіка. У Баранавіцкім гарадзкім судзе пасьля бліскучай заключнай прамовы адваката Зоі Гаўдзей судзьдзя Ж.М.Капачэўская вынесла канчатковы вердыкт: «Адміністратыўную справу ў адносінах да Пікулы А.В. спыніць у сувязі з адсутнасьцю складу злачынства». Гэтае рашэньне зьяўляецца вынікам амаль пяцімесячнага змаганьня сяброў ПЦ «Вясна» г.Баранавічы і адваката З.Гаўдзей з дзяржаўнай рэпрэсіўнай машынай.

*15 сакавіка* ў Мінску адбылася акцыя апазіцыі «Марш Свабоды-2», прысьвечаная дню Канстытуцыі, у якой прыняло ўдзел, паводле сьведчаньняў відавочцаў, каля 50 тысячаў грамадзянаў (паводле падлікаў Беларускага тэлебачаньня – у дзесяць разоў меней, г.зн. 5 тысячаў; паводле падлікаў расійскіх тэлекампаній, больш за 20 тысячаў). Акцыя праходзіла мірна. Адзіны непрыемны інцыдэнт здарыўся, калі калона дэманстрантаў рушыла з плошчы Якуба Коласа, – да здымачнай групы расійскага каналу НТВ падышоў вельмі ўзбуджаны агрэсіўны малады чалавек, які ўдарыў карэспандэнта НТВ Аляксандра Калпакова ў твар. Чалавек, які зьдзейсьніў напад, быў затрыманы на месцы здарэньня ўдзельнікамі акцыі, сярод якіх былі назіральнік Праваабарончага Цэнтру «Вясна» Алесь Данільчык і аглядальнік агенцтва «Інтэрфакс» Вераніка Трызна. Затрыманага на машыне ДАІ даставілі ў РАУС Савецкага раёну г.Мінску. Ім аказаўся Сяргей Казлоў, студэнт 2-га курсу геафаку БДУ. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па Арт. 201.ч.2 Крымінальнага Кодэксу РБ – злоснае хуліганства.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Алесь Астроўскі: "Як я абмяркоўваў Саюзную дамову"

***Рэдакцыя "Права на волю" напрыканцы лютага атрымала ліст з Горадні ад вядомага ня толькі па нашых публікацыях прафесара мясцовага мединстытута (цяпер ужо унiверсiтэта) Алеся Астроўскага, у якім ён расказвае пра мінулагоднія падзеі, дзеліцца сваімі назіраньнямі і дае некаторыя парады ўдзельнікам масавых акцыяў апазіцыі. Ліст гэты падаўся нам цікавым, і мы прапануем пазнаёміцца з ім нашым чытачам.***

Вынікі абмеркаваньня праекта «Дамовы аб стварэньні адзінае Расійска-Беларускае дзяржавы» былі неадэкватна пададзеныя беларускаму грамадзтву. У афіцыйных сродках масавай інфармацыі паведамлялася, што нібыта «Дамову...» падтрымлівае больш за 95 адсоткаў нашых грамадзянаў. Аднак у Горадні зафіксаваныя шматлікія выпадкі, калі ў калектывах ад 95 да 100 адсоткаў працоўных галасавалі "супраць". Гэта адбывалася тады, калі абмеркаваньне было сапраўды свабодным.

Спробы горадзенскай апазіцыі паўдзельнічаць у абмеркаваньні «Дамовы...» блакаваліся ўладамі. Прадстаўнікам горадзенскіх філіяў БНФ, БСДП і БСДГ, нягледзячы на заявы, пададзеныя загадзя і аформленыя па ўсіх правілах, не было дазволена выступіць па тэлебачаньні і радыё, было адмоўлена нават у выстаўленьні інфармацыйных пікетаў. Улады актыўна перасьледвалі людзей, якія распаўсюджвалі інфармацыйныя ўлёткі. Іх хапалі, складалі на іх пратаколы, судзілі. Дарэчы, новай фармальнай нагодай для затрыманьня стала прэтэнзія, што на ўлётках няма дадзеных пра наклад і месца іх друкаваньня. Былі выпадкі, калі, прадбачачы вынік публічнага «абмеркаваньня», ва ўстановах адмянялі галасаваньне ці нават само абмеркаваньне. Так было ў мясцовым універсітэце і нашым мединстытуце

А таму дзеля ўдзелу ў "абмеркаваньні" я вырашыў скарыстаць мітынг, які 20 лістапада 1999 году праводзіў Гродзенскі БПСМ у падтрымку «Дамовы...» і Лукашэнкі. Але ўжо на пачатку мітынгу я зразумеў, што выступіць тут не дадуць. Мітынг быў заарганізаваным, на яго сагналі больш за тысячу школьнікаў, навучэнцаў ПТВ, студэнтаў інстытутаў ды тэхнікумаў, якіх зьнялі з заняткаў. І ўсё ж паўгадзіны, якія доўжылася мерапрыемства, не былі страчаныя дарэмна: я пагледзеў бясплатны сьпектакль паводле Оруэлаўскіх твораў...

За час мітынгу ў натоўпе добра папрацавалі нашыя людзі, бо калі ўсе разыходзіліся, многія трымалі ў руках улёткі супрацьлеглыя зьместу мітынгу. Сабраўся ісьці дамоў і я. Але тут заўважыў намесьніка старшыні горадзенскай арганізацыі БНФ Аляксандра Міхальчыка, які стаяў у акружэньні 5-6 маладых людзей у цывільным і штосьці ім эмацыйна тлумачыў. Як потым выявілася, гэта былі міліцыянты, якія затрымалі Міхальчыка за распаўсюджаньне ўлётак. Я ж спачатку іх палічыў не інакш, як БПСМаўцамі, ці РНЕшнікамі. І каб не дапусьціць скандалу, стаў выцягваць Міхальчыка з «акружэньня».

Скончылася ўсё затрыманьнем, у ходзе якога быў цэлы букет неправамерных дзеяньняў міліцыі, знаёмых на сёньня тысячам нашых суграмадзянаў:

— супрацоўнікі МУС не прадставілі свае пасьведчаньні (таму, толькі калі да нас падышлі міліцыянты ў форме, я зразумеў, што прычапіліся да Міхальчыка не бандыты, а міліцыянты);

— на месцы здарэньня не было прад'яўлена абвінавачаньня (на мае патрабаваньні да ўсіх супрацоўнікаў міліцыі растлумачыць прычыну затрыманьня, быў стандартны адказ: «Прыедзем у РАУС, там скажам»).

— была спроба абвінаваціць мяне ў тым, што я п'яны;

— у РАУС не было аказана ніякай юрыдычнай дапамогі;

— не была дадзеная магчымасьць патэлефанаваць блізкім, каб паведаміць, дзе я знаходжуся.

Таму тыя 2 сутак, якія мне давялося прабыць у ізалятары часовага ўтрыманьня, я не ўступаў у размовы з міліцыяй: не адказваў ні на якія пытаньні, не падпісваў ніякіх папераў, не прымаў ежу і г.д.

Умовы ўтрыманьня ў падобных установах ужо дастаткова падрабязна апісаныя В.Шчукіным. Згадаю толькі скандэнсаваную на стол камеры ваду, кроплі якой, падаючы на твар, некалькі разоў за ноч перапынялі сон.

Але найбольш уразіла тое, як на судзе, паабяцаўшы гаварыць праўду, ілжэсьведчылі міліцыянты Ленінскага РАУС г.Гродна А.А.Гранцаў, С.У.Літвін і С.У.Самушчык. Чаго яны мне толькі не прыпісвалі. Але шмат разоў абяцаны відэазапіс (дзе я быццам бы павінен быў у час затрыманьня кідацца на міліцыянтаў, лаяцца на іх матам і пагражаць, дзе яны мне наперабой паказвалі свае міліцэйскія пасьведчаньні і г.д.) паказаны ня быў. Міліцыянты спасылаліся на тое, што падаў сьнег (а сьнег не ішоў у той час) і на стужцы нічога не бачна.

Ня менш уразіла і тое, што судзьдзя Ленінскага раённага суда г. Горадня С.Г. Ярашэвіч вынес пакараньне ня ім, а мне (!), хоць я цалкам і пераканаўча адпрэчыў усе ілжывыя, узаемна супярэчлівыя «паказаньні» міліцыянтаў. Пакараньне заключалася ў тых 2 сутках, якія я ўжо адседзеў.

У цэлым, гісторыя з маёй спробай «абмеркаваць» праект «Дамовы...» дазволіла зрабіць шэраг высноваў, якія я да апісаных падзеяў ня ўлічваў:

1. На чалавека ў форме ці таго, хто паказаў пасьведчаньне супрацоўніка МУС нельга аказваць фізічнае ці псіхічнае ўздзеяньне (лаяцца ці пагражаць). Тады яны вымушаны будуць ілжэсьведчыць на судзе.

2. На мерапрыемствы апазіцыі нельга прыходзіць нават зьлёгку на падпітку.

3. Трэба адзін аднаго падтрымліваць як у час мерапрыемства, так і пасьля яго, калі хто-небудзь будзе затрыманы (РАУС, суд).

4. Трэба добра ведаць правілы затрыманьня, патрабаваць іх выкананьня і фіксаваць прозьвішчы супрацоўнікаў МУС з неправамернымі паводзінамі.

5. Нельга давяраць сёньняшнім судам. Таму ўсе працэсы трэба імкнуцца рабіць максімальна адкрытымі і з абавязковым удзелам сваіх адвакатаў.

Карыстацца гэтымі правіламі варта яшчэ і таму, што назіраецца тэндэнцыя распаўсюджаньня рэпрэсій супраць апазіцыі, вядомых па Мінску, на ўсю тэрыторыю Беларусі.

І апошняе, што лічу неабходным дадаць: чамусьці за ўвесь час апісаных падзеяў мяне не пакідала ўражаньне, што нашай міліцыяй сёньня кіруе нават не беларускі КДБ, а расійская ФСБ.

**Алесь АСТРОЎСКІ,**
**доктар медыцынскіх навук,**
**прафесар.**

***P. S.* Гэтая гісторыя мела і працяг. Рэктар мединстытуту П. В. Гарэлік 18 сьнежня 1999 году выдаў загад такога зьместу, цытуем: "20 лістапада 1999 году прафесар кафедры біялогіі Астроўскі А. А. адсутнічаў на працы на працягу дзьвюх гадзінаў без уважлівых прычынаў. На падставе вышэйвыкладзенага ЗАГАДВАЮ:**

**1. Прафесару Астроўскаму А.А. за парушэньне працоўнай дысцыпліны аб'явіць вымову.**

**2. Папярэдзіць прафесара Астроўскага А.А., што пры паўторы парушэньня працоўнай дысцыпліны да яго будзе прыменена больш строгае дысцыплінарнае пакараньне, аж да звальненьня.**

**3. Загадчыку кафедры праф. Андрэеву В.П. устанавіць строгі кантроль за захаваньнем падначаленымі супрацоўнікамі працоўнай і выканаўчай дысцыпліны і выкананьня імі службовых абавязкаў".**

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.
Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna 96@crosswinds.net
http://viasna 96@spring.org
www.spring96.org
У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020